# АКАФІСТ

## перад абразом БОЖАЕ МАЦІ



# АКАФІСТ

## ПЕРАД ЦУДАТВОРНЫМ ЖЫРОВІЦКІМ АБРАЗОМ БОЖАЕ МАЦІ



ПРАВАСЛАЎНАЕ ЖЫРОВІЦКАЕ БРАЦТВА
1948.

# ТРАПАР, КАНДАК І ВЯЛІЧАНЬНЕ ПРАСЬВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

перад Цудатворным Жыровіцкім Абразом.

## ТРАПАР 2.

Хто патрабуе Твае дапамогі, Уладычыца, не адкінь ад Сябе, але міласэрдзе акажы ўсім, хто да Цябе прыбягае перад Цудатворным Тваім Абразом. У смутку нас пацеш, Міласэрная, і ад сьлёз да радасьці ў надзеі накіруй. Бо Табе толькі ўсе цяжкасьці ведамыя і на Цябе спадзяёмся, крыніца міласьці нашай, умацаваньне, ахова й збаўленьне душаў нашых.

## КАНДАК глас 4.

Хто зразумее Тваю веліч, Прасьвятая Дзева, якая нарадзіла Хрыста, Тварца Бога ўсяго сьвету. Адна бо Ты Маці й Дзева Прабагаславенная і праслаўленая, надзея нашая, крыніца супакою, верным адпачненьне й сьвету збаўленьне.

## ВЯЛІЧАНЬНЕ.

Вялічаем Цябе, Прасьвятая Дзева, і пачытаем Абраз Твой, з даўных гадоў слаўны, у Жыровічах людзям аб'яўлены, чысты воблік Твой.

## АКАФІСТ. КАНДАК 1.

Выбраная адна з усіх людзей роду чалавечага Ўладычыца й Маці неба й зямлі, Апякунка над намі грэшнымі! Табе пахвальныя песьні прыносім удзячнасьці, як заступніцы роду хрысьціянскага. Ты, добрая Абараньніца перад Госпадам, малі Сына Твайго й Бога нашага даравалі нам прышласьць шчасьця вечнага, а пацяшаючы сябе, успамянем Цябе: Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне.

## КАНДАК 2.

Бачыўшы верныя слугі Твае ў Жыровічах, абцяжаныя ў бядзе і дапамогі жадаючы, Ты, Богамаці, надзея хрысьціянаў, цудоўнай праявай на дрэве сьвятым Той Абраз жыхаром Жыровічаў аб'явіла, чым напоўніла іх радасьцяй і весялосьцяй сумныя сэрцы іх, якія зь вялікай удзякаю хваляць: алілуя!

## ІКОС 2.

Незразумеўшы таямніцы цудоўнага зьяўленьня на дрэве Абраза Твайго, баярын Солтан пайшоў сам пераканацца. Ты-ж Дзева Багародзіца на тым месцы ўразуміла яго, а мы пазнаём дар міласэрдзя Твайго, у вясялосьці славім Цябе: Радуйся, Раніца раньняга сонца! Радуйся, да цьвету красак прыпадобная! Радуйся, яўленьнем Абраза Твайго, на дрэве дзеткам радасьць паказаўшы. Радуйся, усім пачытаючым Абраз Твой помач даўшы! Радуйся, пакровам людзей сваіх не пакідаючы! Радуйся, Маці Міласэрная, міласэрдзя поўная! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне.

## КАНДАК 3.

Сілаю зразумеўшы аб аб'яўленьні цудатворнага Абраза Твайго, баярын Солтан, які зьявіўся на пацеху людзям з вышняй волі прызначаны, Солтан, шчыра молячыся, прыбяцаў паставіць царкву на месцы зьяўленьня, у якой малітвы прыносяць Богу й людзям, славяць Цябе, Багародзіца: алілуя!

## ІКОС 3.

Маючы невычарпанае міласэрдзе да людзей выбраных Табою Жыровічаў, калі царква Твайго імя згарэла, а Абраз Твой, агнём ахоплены, апекай Тваёй захаваўся непашкоджаным, зьявіўшыся на камені; людзі, убачыўшы вялікае цуда, славілі Цябе: Радуйся, Купіна неапалімая! Радуйся, Цудатворны Абраз Твой убачыўшы на камені! Радуйся, радасьць хрысьціянаў жыровіцкіх пацяшэньне! Радуйся, уразумленьнем Тваім на камені веры стапы нашыя уцьвярдзіўшы! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 4.

Бураю жыцьця чалавек пакрыўджаны, молячыся перад Тваім Цудатворным Абразом, здабывае пацяшэньне душы й сэрца. Ты бо Дзева Чыстая, Радасьць роду хрысьціянскага, на простую дарогу веры накіроўваючы, сэнс жыцьця на зямлі паказваючы, а гэтым і веру у Бога ўзмацоўваючы, зь верою пяём Яму: алілуя!

## ІКОС 4.

Пачуўшы людзі па ўсёй Беларусі аб цудатворным Абразе Тваім і аб цудах веры перад Воблікам Тваім, Багародзіца Дзева, прыйшлі пакланіцца Табе й аддаць хвалу, пяючы: Радуйся, Маці Міласэрная, мора, ласкі поўнае! Радуйся, над краем нашым апеку паказаўшы! Радуйся, народ наш памілаваўшы! Радуйся, усяму сьвету радасьць і вечныя ласкі дараваўшы! Радуйся, надзея нашая і пацяшэньне! Радуйся, усіх слабых заступніца! Радуйся, усіх сіротаў Маці! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая, усерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 5.

Падобная да зоркі паўночнай у сьвятым Абразе Тваім, зьявілася дзецям на ігрушы вясьнянай прыгожасьці і на камені ў постаці жанчыны, пакідаючы стопку нагі свае, ратуючы Цудатворны Абраз свой ад агню. Дзеткі, вычуваючы нявіннасьцяй душы свае Матчына сэрца аб вялікім міласэрдзі Тваім, падобна, як Хрысту сьпявалі «Асанна», і Табе пяюць славу, алілуя!

## ІКОС 5.

Праславіла Сябе цудамі Абраза Твайго, калі адну дзяўчыну, некую Арыну, на пасьцелі хворую везьлі да сьвятыні Цудатворнага Абраза Твайго і ў дарозе памерла, а ў часе адпяваньня над пакойнай перад Абразом Тваім уваскросла, усе людзі із страхам уздыхнулі: Радуйся, Слова Жыцьця целам нарадзіўшы! Радуйся, сілаю малітвы Тваe мертвую дзяўчыну уваскрасіўшы! Радуйся, праслаўляючы Сябе Цудамі! Радуйся, карабель ратунку ў жыцьцёвым моры загубы паслаўшы! Радуйся, Цудатворным Абразом радасьці нам падацелька! Радуйся, радасьць нашая і ўсяго народу нашага Апякунка й заступленьне!

## КАНДАК 6.

Усе дарогі вядуць да Твайго Цудатворнага Абраза ў Жыровічах, Маці Бога Вышняга. Хто да Цябе прыходзіць, Уладычыца, не адходзіць зь нічым. Але вераю напоўнены й ласкаю асьвечаны, пазнаўшы сілу цудатворных дароў Тваіх, распаўсюджвае славу Тваю і пяе Табе, алілуя!

## ІКОС 6.

Асьвяціўшы ясным прамянём веры хрысьціянскае зямлю нашую Беларусь, абраўшы месца Жыровіцкі манастыр аказаньня помачы народу нашаму, Ты, Богамаці, праславіла Сябе гэтым у ўсім краі нашым, Прасьвятым Абразом Тваім у Жыровічах. Сьвятыня гэтая, імя слаўнага Усьпеньня Твайго, была месцам поступу дасканальнасьці манахаў, а народу сьвятым прамянём веры ў Праўду Божую. Усе, хто наведаў Абраз Твой у Жыровічах, з радасьці пяялі Табе: Радуйся, дастойная Боскае хвалы! Радуйся, ясьнейшая за блеск сонешны! Радуйся, да нябеснага шчасьця брама! Радуйся, із Сынам Сваім паяднаньне! Радуйся, з Богам нашым Аб'яднаньне! Радуйся, заранка сонца вечнага! Радуйся, надзея роду чалавечага! Радуйся, адзінае прыбежышча! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 7.

Тваю сьвятыню ў Жыровічах ня толькі наведваў сялянскі народ, але пакланяліся Твайму прачыстаму Абразу і князі і каралі, валадары дзяржаўныя, просячы помачы Твае, Уладычыца, і абароны перад ворагам народу нашага, і Ты выслухала іх, калі і да сяньняшняга дня народ пяе Табе ў Жыровічах — алілуя!

## ІКОС 7.

Дзіўную запраўды паказала апеку над Жыровічамі, калі ўсім людзям аказала помач, хто Цябе хваліў праваслаўна. Ты ўсіх, як добрая Маці, прыймала пад сваё заступленьне, таму Жыровіцкі Абраз Твой славяць далёка і ў чужых землях, а зьяўлены Абраз Твой на ігрушы стаўся сымболем веры нашай, што Ты любіш народ наш сялянскі, які на мяжы нівы свае даглядае ігрушы зь верою ў плод, асьвечаны вялікім міласэрдзем Тваім. Таму й пяе Табе: Радуйся, раньняе вясны надзея! Радуйся, ніва плодная! Радуйся, ураджай жніва пасылаючы! Радуйся, увосень у зборы багатая! Радуйся, хлебам Божым кормячы! Радуйся, малаком ласкі Твае насычаючы! Радуйся, цёплай верай цуду Твайго душу нашу аздараўляючы! Радуйся, Праміласэрная Уладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 8.

Усё анельскае войска Цябе, Богамаці, вялічае на небясі, Бог-жа уцелавіўся ў Табе, радзіўшы целам Бога-Слова. Тым і мы пазналі міласьць Яго празь Цябе, Дзева Маці, славячы Цябе зь Херувімамі, вялічаючы зь Серафімамі, пяючы аб Табе Богу алілуя.

## ІКОС 8.

Аглядаючы Абраз Твой зь Дзіцяткам, Божым Сынам, аб'яўлены цудатворнай Тваё міласьці, выцякаючай чыстай вадой із крыніцы спад ігрушы ў Жыровіцкай сьвятыні, людзі, чэрпаючы яе, асьвячаюць сябе ад нячыстага духа, сэрцам славяць Цябе: Радуйся, сямейнага шчасьця Апякунка! Радуйся, да неба нас падымаючы! Радуйся, прад Богам заступніца! Радуйся, ад гневу Божага за нашыя грахі абароньніца! Радуйся, да пакаяньня нас накланяючы! Радуйся, душы нашай збаўленьне! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне.

## КАНДАК 9.

Цудадзейная Маці, пакрый сваім' амафорам народ наш ад бязьвер'я ў вапеку Божую над ім, адгані спакусу людзкога мудраваньня ад розуму іх, зьвярні ўвагу іх на мукі Сына Свайго, які прынёс Праўду на зямлю, праўдзівай свабоды душы чалавеку, якая дабравольна пяе Яму — алілуя!

## ІКОС 9.

Усе зьведалі ласку Тваю, Богамаці, якая пры крыжы Сына Свайго цярпела мукі болю для збаўленьня нашага, Сын-жа Твой зьвярнуў вочы нашыя на Цябе, Богародзіца, сказаўшы апосталу Івану: «Вось гэта Маці Твая», мы-ж, веруючы гэтаму, клічам да Цябе: Радуйся, радасьць нашага збаўленьня! Радуйся, сумных пацяшэньне! Радуйся, мёртвых уваскрашэньне! Радуйся, грэшнікаў пакаяньне! Радуйся, адзінотных пацяшэньне! Радуйся, сіротаў заступленьне! Радуйся, заблуканых ратаваньне! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 10.

Жадаючы збавіць душу сваю, прыбягае чалавек да Цябе, Уладычыца, як да добрае Маці й кліча: ратуй нас ад бедаў і напасьці, ратуй ад упадку ў грахі, завідасьці й злосьці на брата свайго. Захавай ад спакусы грэшнага памышленьня, зьвярні на дарогу Хрыстовае Праўды, дзе пяюць праведнікі Табе і Богу — алілуя!

## ІКОС 10.

Праваслаўная Царква ў дні цяжкіх досьледаў на Цябе надзеялася, а людзі да Цябе прыбягалі, як да маткі, і малілі Цябе: заступіся і пакрый і захавай нас у еднасьці памышленьня, дай сілу ў праўдзе вытрываць, захавай ад расколу царкоўнага, а ўсе адзінадушна запяём Табе: Радуйся, Пакроў Царквы Праваслаўнай! Радуйся, Хрыстовае веры настаўленьне! Радуйся, праз Царкву асьветы нам падацелька! Радуйся, сьвятых угоднікаў зямлі нашае слава! Радуйся, ад іншаверцаў заступленьне! Радуйся, ад сэктанцтва нас збаўленьне! Радуйся, у еднасьці веры нас падтрыманьне! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 11.

У песьні нестае словаў аддаць Табе пахвалу і ўдзячнасьць нашую, Прачыстая Дзева! Розум не ахопіць глыбіні міласэрдзя Твайго. Веліч дабрыні Твае спакарае нас. Зіяньне чысьціні Твае анясьмельвае нас. Прымі ўздыханьне сэрца нашага і ўбогае хваленьне нашае, якім на векі славіць будзем Цябе, Марыя Дзева, і Бога — алілуя!

## ІКОС 11.

Нябеснае зіяньне Абраза Твайго ў Жыровіцах няхай усе ўбачаць. На шлях да чэснага жыцьця зямнога й да збаўленьня душы ў небе накіруй, Уладычыца, людзей Тваіх, праз закон Хрыста Бога нашага. А ўсе славіць Цябе будзем із угоднікамі Божымі. Радуйся, лесьвіца ласкі Божай! Радуйся, раскошы нашага сэрца падацелька! Радуйся, у маладым веку нас краскаю жыцьця асыпаючы! Радуйся, у старасьці хлеб нам падаючы! Радуйся, у смутку жыцьця нас пацяшэньне! Радуйся, у чужых людзях нас памілаваньне! Радуйся, у далёкай зямлі ад роднага дому да прыюту прыбежышча! Радуйся, Праміласэрная Ўладычыцца, Апякунка нашая і ўсерадаснае заступленьне!

## КАНДАК 12.

О, Прасьвятая Уладычыца, Дзева Богародзіца, усе роды славяць Цябе на зямлі, а Херувімы на небе. Прыймі і ад нас, грэшных слугаў Тваіх, малітву нашую, як пахвалу Табе, ўцяшэньне душы нашае. Пакрый апекаю амафору нябеснага зямлю нашу, а нас тут захавай у веры бацькоў нашых. Памажы вярнуцца па шляху да Жыровічаў на зямлю нашую й пакланіцца перад Цудатворным Абразом Тваім. Прасьвятая Богародзіца, памілуй нас — алілуя, алілуя, алілуя!

# МАЛІТВА.

О, Міласэрная Ўладычыца, Дзева Багародзіца! Якімі вуснамі прыкланіцца да сьвятыні Абраза Твайго? Якімі словамі выкажу аб пачуцьці ласкі Твае людзям, якія прыбягаюць да Цябе? Ніхто-ж ад Цябе не адыходзіць без памілаваньня. Ад zараньня жыцьця чалавек адчувае ласку Маці свае, якая вучыць славіць Цябе, Багародзіца, Уладарніца душы нашае, аддаёмся пад апеку Тваю, стоячы на каленах перад Цудатворным Абразом Тваім. Не пакінь нас бяз помачы ў дзень суму, у дзень жалю, досьледаў у жыцьці нашым! Будзь радасьцяй і надзеяй збаўленьня нашага. Міласэрная Ўладычыца, прасьвяці розум мой і усім тым, хто да Цябе прыбягае! Захавай Царкву Сына Твайго ў еднасьці! Архіпастырам нашым пашлі помач Тваю ў апостальсьцьве Евангельля! Пашлі ўладам нашым кіравацца праўдаю й розумам, судзьдзям праўдай і справядлівасьцяй. Яшчэ малю Цябе, Міласэрная Богамаці, глянь на зямлю нашую й народ і пакрый ад бяды, вайны й голаду і чужога перасьледу волі нашае. Дай шчасьце й супакой у жыцьці, свабоды сумленьня й хрысьціянскай маралі, жыць і славіць Цябе малітвамі і песьнямі на зямлі нашай на векі вечныя Амін.